

ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ
РАГАЧОЎ
Карма
Дняпро
ЖЛОБІН
ЧАЧЭРСК
Парычы
Стрэшын
БУДА-КАШАЛЁВА
Беседзь
СВЕТЛАГОРСК
Акцябрскі
ВЕТКА
Бярэзіна
Балшавік
КАСЦЮКОЎКА
ГОМЕЛЬ
Іпуць
Азарычы
ДОБРУШ
Случ
Пціч
Капаткевічы
РЭЧЫЦА
Цераховка
ВАСІЛЕВІЧЫ
ЖЫТКАВІЧЫ
КАЛІНКАВІЧЫ
Тураў
ПЕТРЫКОЎ
Прыпяць
МАЗЫР
Сож
Лоеў
ХВОЙНІКІ
Лельчыцы
ЕЛЬСК
Брагінка
Убарць
НАРОЎЛЯ
Брагін
Прыпяць
Камарын

Я. Н. Рапановіч

# СЛОЎНІК НАЗВАЎ НАСЕЛЕНЫХ ПУНКТАЎ ГОМЕЛЬСКАЙ ВОБЛАСЦІ



Рэдактар
доктар філалагічных навук
П. П. Шуба

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1986

ББК 81.2 Бел-4
Р 23

Рэцэнзенты:
С. М. Грабчыкаў, кандыдат філалагічных навук,
Г. А. Каханоўскі, кандыдат гістарычных навук

**Рапановіч Я. Н.**

Р 23 Слоўнік назваў населеных пунктаў Гомельскай вобласці / Рэд. П. П. Шуба.— Мн.: Навука і тэхніка, 1986.— 240 с.

На беларускай і рускай мовах даюцца назвы ўсіх населеных пунктаў Гомельскай вобласці. Кожная назва прыводзіцца з націскам, паказваюцца род назоўніка, родны і месны склоны; утвораны прыметнікі; адзначаецца тып пасялення, называюцца сельсавет і раён, а таксама калгас ці саўгас, на тэрыторыі якіх гэта пасяленне знаходзіцца.

Р $\frac{4602020000-050}{М316-86}$ 123—86

ББК 81.2 Бел-4

## УВОДЗІНЫ

На правым беразе Сажа гэта было самае высокае месца, апаясанае дзвюма глыбокімі ўпадзінамі. Узвышша мела крутыя схілы, на ім рос густы, некрануты лес. Такі ж лес цягнуўся наўкола на сотні кіламетраў, то пераходзячы ў багністыя балоты, то абмінаючы вялізныя азёры. У лясах табунамі раскашавалі зубры, дзікі, ласі, козы, алені, туры, мядзведзі, рысі, лісіцы. А яшчэ раней, як сведчаць знойдзеныя ў ваколіцах горада і зберажоныя Гомельскім абласным краязнаўчым музеем косці старажытных жывёлін, вадзіліся маманты, насарогі.

Узвышша ляжала ў зручных прыродных умовах, і на ім узнікла стаянка качавых плямёнаў. Пазней сюды прыйшлі радзімічы, аселі і заснавалі пасяленне — на месцы былой стаянкі, якраз у сутоках, дзе рэчка Гамяюк упадала ў раку Сож.

Прайшлі стагоддзі. Схілы ўзвышша, абжытага чалавекам, паволі размываліся, выветрываліся, асыпаліся, рабіліся пакатымі. Знік Гамяюк, і ў цяперашнім парку імя А. В. Луначарскага пра ягонае рэчышча нагадвае адно глыбокі роў з сажалкай.

Гомель — паселішча старадаўняе, упершыню прыгаданае «Кіеўскім летапісам» пад 1142 г. Пасля яно часта трапляла ў пісьмовыя крыніцы. Гістарычная літаратура сцвярджае, што назву паселішча пісалі па-рознаму: *Гомель, Гоми*[1], *Гомен, Сомен, Homel*[2]. Аднак не ўсе напісанні, вынесеныя ў паказальнікі геаграфічных назваў, знаходзім у саміх летапісах. Так, *Гомель* даюць «Хроніка Літоўская і Жамойцкая»[3], «Баркулабаўскі летапіс»[4]; *у Гоми, у Гомли* — «Баркулабаўскі летапіс»[5];

---

[1] Полное собрание русских летописей. Т. 32. Хроники: Литовская и Жмойтская и Быховца. Летописи: Баркулабовская, Аверки и Панцырного.— М., 1975, с. 228. (Далей: ПСРЛ.)

[2] ПСРЛ. Т. 35. Летописи белорусско-литовские.— М., 1980, с. 299.

[3] ...Кричев, Гомель поддалися ему; ... а литовские княжата и панове, и все рицерство литовское... взяли замок Гомель в Сѣверской земли над Сожем рѣкою стоячий и место...— ПСРЛ, т. 32, с. 103, 108.

[4] ...почавшы от западних краев замков украинных Чернигов, Гомель, Любеч, Белая Церков, Переясловль, Стрешин, Речица, Рогачов, Кричов... по селах и местах и местечках немало збожя попсовала град и буря великая...— ПСРЛ, т. 32, с. 182.

[5] ...лежали у Гоми, в Речицы, в Рогачове, у Баркулабове на пристанство...; Тые козаки брали приставства у Полоцку, у Витебску, на Орши, у во Мстиславлю, у Крычове, у Могилеве, у Головчине, у Чечерску, у Гомли, у Любечу, у Речицы, у Быхове, у Рогачове и по всих местах.— ПСРЛ, т. 32, с. 187, 189.

*Гомеи* — «Валынскі кароткі летапіс»[6], «Летапіс Рачынскага»[7], «Румянцаўскі летапіс»[8], «Еўраінаўскі летапіс»[9]; *Сомеи* — «Еўраінаўскі летапіс»[10]; *Homel* — «Хроніка Быхаўца»[11], «Альшэўскі летапіс»[12], «Магілёўская хроніка Т. Р. Сурты і Ю. Трубніцкага»[13].

Калі ўважліва чытаць мясціны «Баркулабаўскага летапісу», дзе расказваецца пра Гомель, няцяжка заўважыць, што там няма пачатковай формы *Гоми.* У словазлучэннях *лежали у Гоми, брали приставства у Гомли* уласны назоўнік ужыты ў месным склоне. Напісанне ж *у Гоми*— звычайны пропуск літары *л* у айконіме. Памылка перапісчыка і напісанне *Сомени* у «Еўраінаўскім летапісе». Па-першае, што *князь Федор держал Гомеи,* паведамляюць таксама «Летапіс Рачынскага» і «Румянцаўскі летапіс». Па-другое, у канцы «Еўраінаўскага летапісу» гэтае ж слова напісана *Гомеи.* Такім чынам, у летапісах няма пачатковых форм *Гоми, Гомен, Сомен,* як лічаць аўтары паказальнікаў геаграфічных назваў. Ёсць *Гомеи, Гомель, Homel.*

Паходжанне назвы то звязваюць са стараславянскім *гомила (гомола)* — магіла, узгорак; то суадносяць са славенскім *hom,* роднасным верхнялужыцкаму *homila* — узгорак; то супастаўляюць з дыялектнымі *гом, гомь,* якія ў беларускай, украінскай і рускай мовах маюць значэнне *шум, гоман;* то ўзводзяць да ўласных назоўнікаў — імя першага пасяленца ці наймення рэчкі, дзе пасяленне ўзнікла. А сярод гомельцаўстаражылаў жыве такое паданне. Плытагоны з пярэдніх плытоў, праходзячы луку Сажа перад самым паселішчам, крычалі сваім напарнікам: «Го-го-о-о! Мель!! Мель!!!» — папярэджвалі, што тут неглыбока і неабходна пільнавацца, каб не сесці на мель. Ад перасцярогі-выкрыкаў, гаворыць паданне, і нарадзілася назва.

---

[6] Того же лѣта побра великии князь Иван Василевич московский городы... Гомеи, Стародуб, Чернигов.— ПСРЛ, т. 35, с. 125.

[7] ...их четвертыи брат у Литве держал Новгородок, князь Федор, и к тому еще держал Гомеи.— ПСРЛ, т. 35, с. 160.

[8] ...и по них четвертыи брат в Литвѣ держал Новъгородок, князь Федор, и к тому еще держал Гомеи.— ПСРЛ, т. 35, с. 207.

[9] ...от Рѣчицы пошли к Гомью, и Гомеи город взяли, и от Гомѣя пошли к Стародубу...— ПСРЛ, т. 35, с. 236.

[10] ...и по них четвертыи брат Федор держал к тому еще Сомеи...— ПСРЛ, т. 35, с. 228—229.

[11] ...prysiahnuli służyty welikomu kniaziu moskowskomu so wsimi horody, so Czernihowom, so Starodubom, z Homlem, Nowymhorodkom Sewerskim, z Rylskom...— ПСРЛ, т. 32, с. 166.

[12] ...po nich czwarti brat w Litwe dzierżał Nouogrodek, xiądz Chwiedor, i ku temu ieszcze dzierżał Homel...; Homel wzięli w piątek...—ПСРЛ, т. 35, с. 186, 192.

[13] ...Alexander Danilowicz Mięczykow z woyskiem stał w Homlu z swą dywizyą.—ПСРЛ, т. 35, с. 262.

Этымалогія, якую прапануе паданне, ненавуковая, і ад яе трэба адказацца. У беларускай мове, як і ў рускай і ўкраінскай, няма тапонімаў, утвораных паводле мадэлі «выклічнік+назоўнік». Непрымальная і думка, нібы айконім Гомель паходзіць ад наймення рэчкі. Звычайна старадаўнія паселішчы не называлі імёнамі невялікіх рэчак; наадварот, нярэдка невялікія рэчкі называлі імёнамі паселішчаў, якія каля іх стаялі. Так, відаць, было і тут: рэчка-ручай Гамяюк атрымала сваю назву ад паселішча Гомей.

Большасць айконімаў звязана з уласнымі імёнамі першых пасяленцаў ці людзей, у чый гонар называлі населены пункт. Таму зусім правамерна лічыць, што назва паходзіць ад уласнага імя чалавека *Гом: Гом+ьj→Гомль→Гомель*. Аднак можна дапусціць і паходжанне яе ад старога геаграфічнага тэрміна *гам'эл* [γамэл] — участак цвёрдай, сухой зямлі. Такое меркаванне падтрымліваюць два аргументы. Першы: у крыніцах, напісаных лацінскімі літарамі, паслядоўна вытрымліваецца форма *Homel*, г. зн. увесь час захоўваюцца фрыкатыўны заднеязычны [γ] і цвёрды пярэднеязычны змычна-праходны санорны [м]. Другі: у сярэднебеларускіх гаворках Пасожжа і цяпер бытуе слова *гамэ'лак* [γамэлак] — камяк цвёрдай зямлі на раллі. А Гомель жа ўзнік на ўзвышшы...

Як бачым, этымалогія айконіма канчаткова пакуль не высветлена.

Геаграфічнае становішча Гомеля спрыяла развіццю ў ім гандлю. Раку Сож ведалі як дарогу «на радзімічы». З Сажа плылі ў Дняпро, адтуль траплялі ў Волжскую сістэму. Па Дняпры ішоў вялікі водны шлях з Балтыйскага мора ў Чорнае — славуты гандлёвы шлях «з варагаў у грэкі».

І Гомель заняў месца аднаго са значных гандлёва-рамесных цэнтраў. Радзімічы куплялі тавары з паўднёвых краін і прадавалі свае: прадукты земляробства і жывёлагадоўлі, рамесніцкія вырабы, пушніну. Што гандаль быў актыўны, сведчаць хаця б такія факты. Будуючы мост Гомель — Навабеліца, знайшлі 82 манеты, адчаканеныя арабамі ў IX—X ст. Недалёка ад вёскі Старыя Дзятлавічы (за 35 кіламетраў ад Гомеля) у былым рэчышчы Сажа, якое завуць Кабыліна балота, выяўлены рэшткі судна з воскам — таварам радзімічаў.

Сівы Дняпро перасякае Гомельскую вобласць з поўначы на поўдзень. Адтуль жа спяшаецца і нястомны працавік суднаходны Сож, які каля Лоева аддае свае воды Дняпру-Славуцічу. З захаду, цераз паўднёвыя землі Брэстчыны, плыве Прыпяць — паўнаводная задумлівая прыгажуня Палесся. Багата тут і іншых прывабных рэк і рачулак: Беседзь, Бярэзіна, Іпуць, Пціч, Славечна, Убарць...

Землі вобласці раўнінныя, лясіста-балоцістыя, багатыя на карыс-

ныя выкапні (нафта, газ, каменная і калійная солі, торф, буры вугаль, гліна, шкловыя і фармовачныя пяскі). Клімат умерана кантынентальны: зіма мяккая, лета цёплае.

Тэрыторыя, якую займае сучасная Гомельская вобласць, пачала абжывацца з сярэдняга палеаліту і ў эпоху мезаліту заселена поўнасцю. Жылі тут плямёны такіх культур, як грабеньчата-накольчатай керамікі, сярэднедняпроўская, сосніцкая, тшцінецкая, мілаградская, зарубінецкая. «У 6—9 ст. Гомельшчыну насялялі славянскія плямёны. З 9 ст. тэрыторыя Гомельскай вобласці ў складзе Кіеўскай Русі. У 10—13 ст. яна ўваходзіла ў Тураўскае і Чарнігаўскае княствы»[14]. У 1-й палавіне XIV ст. у складзе Вялікага княства Літоўскага. У выніку першага (1772 г.) і другога (1793 г.) падзелаў Рэчы Паспалітай увайшла ў склад Расіі.

Гомельшчына, як і ўся Беларусь, добра ведае, што такое спусташальныя войны. Нібы тыя слімакі ці каларадскія жукі, поўзалі па ёй розныя заваёўнікі — хазары, печанегі, палаўцы, палякі, шведы, французы, немцы,— аднак гаспадарамі не сталі. Дый не толькі гаспадарамі не сталі, а многія на гэтай мужнай, няскоранай зямлі знайшлі свой канец. Для прыкладу, у 1941 г. на Гомельскім напрамку гітлераўцы страцілі болей за 80 тысяч салдат і афіцэраў, звыш 200 танкаў, каля 100 самалётаў. За няпоўныя два месяцы! А за тры гады вайны толькі знішчальныя батальёны, апалчэнцы і партызаны Гомельшчыны ліквідавалі каля 10 тысяч акупантаў, пусцілі пад адхон звыш 1100 эшалонаў, папсавалі 50 тысяч рэек, падбілі каля 200 танкаў і бронемашын.

І ўсё ж заваёўнікі чынілі вялікія беды. Асабліва гітлераўскія галаварэзы. Акупанты сцёрлі з твару зямлі 4918 прадпрыемстваў, знішчылі ўсе электрастанцыі і электраўстаноўкі. Поўнасцю ператварылі ў руіны Гомельскі, Калінкавіцкі і Жлобінскі чыгуначныя вузлы, Гомельскі рачны порт, спалілі дзесяткі гарадоў і вёсак. У абласным цэнтры з 1767 дзяржаўных жылых дамоў уцалела каля 600. Гомель быў разбураны больш чым на 80%, і агульны ўрон, прычынены гораду вайной, перавысіў 3 мільярды рублёў. Ад Рагачова, Жлобіна і многіх іншых гарадоў не асталося амаль нічога. Ледзь не поўнасцю спалілі ці зруйнавалі ўсе грамадскія і гаспадарчыя будынкі ў Акцябрскім, Рагачоўскім, Жлобінскім, Чачэрскім, Добрушскім, Лоеўскім, Парыцкім, Калінкавіцкім, Ельскім, Лельчыцкім, Петрыкоўскім, Жыткавіцкім і іншых раёнах. У Лельчыцкім раёне з 7562 дамоў калгаснікаў уцалела толькі 32. Нямецка-фашысцкія захопнікі нанеслі вобласці велічэзны ўрон, поўнасцю знішчылі грамадскую гаспадарку калгасаў і саўгасаў, разбу-

[14] Беларуская Савецкая Энцыклапедыя: У 12-і т.— Мн., 1971, т. 3, с. 542.

рылі ўсе МТС. Пасеўная плошча к моманту вызвалення скарацілася на 36%, пасевы лёну — у тры разы, бульбы — на 43%. Асабліва моцна пацярпела жывёлагадоўля. Грамадскае пагалоўе было знішчана поўнасцю, а ў большасці калгаснікаў не стала і сваёй жывёлы. Страты, прычыненыя гітлераўцамі толькі сельскай гаспадарцы Гомельскай вобласці, большыя за мільярд рублёў [15].

У Мазыры з 18 тысяч жыхароў асталося толькі 4 з палавінай тысячы. Калінкавічы страцілі каля 5 тысяч чалавек...

Адважныя, працавітыя людзі жывуць на Гомельшчыне. Разам з іншымі народамі-братамі нашай Савецкай Айчыны яны самаахвярна змагаліся супраць фашысцкай навалачы, разам з імі настойліва аднаўлялі зруйнаваны край і разам мэтанакіравана будуюць камуністычнае грамадства. Напружаная, самаадданая праца высока ацэнена: сярод ураджэнцаў Гомельскай вобласці 20 Герояў Савецкага Саюза, 73 Героі Сацыялістычнай Працы, 22 поўныя кавалеры ордэна Славы, звыш 100 тысяч былых воінаў і партызан адзначаны ардэнамі і медалямі СССР. Сама вобласць 8 лютага 1967 г. атрымала найвышэйшую ўзнагароду Радзімы — ордэн Леніна.

Стаўшы адным з цэнтраў нафтаперапрацоўчай, хімічнай, машынабудаўнічай прамысловасці, Гомельская вобласць паспяхова займаецца земляробствам і жывёлагадоўляй, працягвае перабудоўваць вёскі.

У 20-я гады, калі праводзілі сацыялістычнае землеўпарадкаванне, беззямельныя і малазямельныя атрымлівалі надзелы ад Савецкай улады. Зямельны кодэкс БССР 1925 г. найбольш мэтазгоднай формай землекарыстання лічыў пасялковую. Дзесяць-пятнаццаць двароў аб'ядноўваліся, будаваліся на агульнай сядзібе і карысталіся шматпольным севазваротам. Ствараючы пасёлкі, знішчалі далёказямелле, раскіданасць палеткаў, лішнія дарогі, межы. Пасёлак павінен быў падвесці да калектыўнай апрацоўкі зямлі. Аднак не ўсе з надзеленых сялян ішлі на пасёлкі,— частка з іх сялілася на хутарах.

У некаторых мясцінах узнікла многа новых пасяленняў. Так, напрыклад, у Неглюбскім сельскім Савеце Веткаўскага раёна з 10 цяперашніх паселішчаў 9 заснаваны ў 1929 г. У 30-я гады завяршылася сацыялістычная рэканструкцыя сельскай гаспадаркі і пачалося ссяленне ў калгасныя цэнтры. «З 1938 па 1940 год уключна толькі па Гомельскай вобласці было перасялена ў калгасныя пасёлкі звыш 5300 хутароў» [16]. Вядома, не кожны хутар быў паселішчам з самастойнай назвай, але са змяншэннем колькасці населеных пунктаў непазбежна

---

[15] Белорусская ССР. Гомельская область. 2-е изд., доп. и перераб.— Мн., 1976, с. 145—146, 177.
[16] Тамсама, с. 111.

змяншаецца і колькасць іх назваў. У назвах жа багатыя звесткі з нашай гісторыі.

Гомельская вобласць цікавая і старымі і новымі назвамі населеных пунктаў. Новыя назвы — тыя, што ўзніклі і ўзнікаюць пры Савецкай уладзе, таму ў іх адлюстроўваецца грамадска-эканамічны ўклад нашага жыцця, сацыялістычныя адносіны паміж людзьмі, ідэалагічнае жыццё эпохі, яго змест і накірунак. Словы для назваў найчасцей выбіраюць з даволі выразным, празрыстым значэннем, каб яны не толькі давалі намінацыю населенаму пункту, а і мелі ідэалагічную нагрузку. Новымі назвамі Гомельшчыны сталі словы-ідэалы (Свабода, Праўда, Адзінства, Брацтва, Перамога, Адраджэнне, Прагрэс, Камуна, Новае Жыццё, Новы Свет, Новы Шлях), словы-гегемоны (Рэвалюцыя, Пралетарый, Бальшавік, Батрак, Селянін, Хлебароб, Чырвоны Араты, Камунар, Чырвоны Змагар, Інтэрнацыянал, Камінтэрн), словы-імкненні (Мірнае, Мірная, Мірны, Дружба, Дружбічы, Дружны, Любоў, Брацкая, Брацкі, Перадавік, Ударная), словы-сімвалы (Кастрычнік, Чырвоны Кастрычнік, Молат, Серп, Зімні, Іскра, Майск, Першамайск, Маяк, Светлая Зара, Чырвоны Свет). У новых назвах ушанавана таксама памяць аб выдатных людзях — кіраўніках Камуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы, дзеячах міжнароднага рабочага руху, героях грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў, даследчыках, пісьменніках, славутых земляках. Сярод ушанаваных У. І. Ленін (Ільіч, Леніна, Ленінадар, Ленінец, Ленінск, Ленінскі, Ленінскі Пасёлак), С. М. Будзённы (Будзёнаўскі, Будзённы), Ц. П. Бумажкоў (Бумажкова), М. А. Вазнясенскі (Вазнясенск, Вазнясенскі), М. М. Валадарскі (Валадарск), М. А. Грачыхін (Грачыхіна), Н. М. Дзенісовіч (Дзенісовічы), Ф. Э. Дзяржынскі (Дзяржынск, Дзяржынскі), А. А. Жданаў (Жданаў), М. І. Калінін (Калінін, Калініна, Калінінскі, Кругавец-Калініна), С. С. Каменеў (Каменева Рудня), С. М. Кіраў (Кірава, Кіраў), А. В. Луначарскі (Луначарск), Р. Люксембург (Роза Люксембург), Ю. Мархлеўскі (Мархлеўск), І. А. Міроненка (Мironенкі), І. У. Мічурын (Мічурынск), Н. Н. Нарыманаў (Нарыманаў), А. Р. Ніканаў (Ніканава), М. М. Пакроўскі (Пакроўск, Пакроўскі), І. Дз. Папанін (Папанін), А. С. Пушкін (Пушкіна), С. Ц. Разін (Сцяпана Разіна), Л. М. Талстой (Талстоўскі), М. Ф. Турцэвіч (Турцэвічы), Э. Тэльман (Тэльмана), М. К. Уладзіміраў (Уладзіміраў), М. С. Урыцкі (Урыцкае), В. І. Чапаеў (Чапаева, Чапаеўка, Чапаеўскі), А. Р. Чарвякоў (Чарвякоў), В. П. Чкалаў (Чкалава).

Даючы новыя назвы, людзі стараліся, каб яны арганізоўвалі, з'ядноўвалі, клікалі, вялі. На жаль, не заўсёды так выходзіла. Нямала новых назваў няўдалых, тыпу Адчаянны, Баец, Барба, Бязбожнік, Герой, Дзвігацель, Дзевятае Студзеня, Забіяка, Зара Новай Жызні, Зара Сва-

боды, Знаменка, Красная Плошчадзь, Луч Сонца, Непабядзімы, Пабядзіцель, Пуцяводная Звязда, Рассветная, Рашыцельны, Спутнік Міра, Сцяг Працы, Труд, Уютны, Шлях Селяніна...

* * *

Гомельская сярод іншых абласцей БССР па плошчы знаходзіцца на другім месцы і займае 40 400 кв. км (меншая за Мінскую на 400 кв. км); па колькасці насельніцтва на 1 студзеня 1985 г. яна таксама была на другім месцы — 1 669 000 чалавек [17].

У 1964 г. з 30 211 населеных пунктаў Беларусі на долю Гомельскай вобласці прыпадала 3036; у 1968 г. з 29 342 у ёй было 2916; у 1974 г. з 27 442 яна мела 2840; у 1981 г. з 26 299 стала 2773 *. На 1 студзеня 1986 г. у вобласці налічвалася 2678 паселішчаў **, сярод іх 17 гарадоў (8 абласнога падпарадкавання: Гомель, Добруш, Жлобін, Калінкавічы, Мазыр, Рагачоў, Рэчыца, Светлагорск; 9 раённага падпарадкавання: Буда-Кашалёва, Васілевічы, Ветка, Ельск, Жыткавічы, Нароўля, Петрыкоў, Хвойнікі, Чачэрск), 13 гарадскіх пасёлкаў (Азарычы, Акцябрскі, Брагін, Камарын, Капаткевічы, Карма, Лельчыцы, Лоеў, Парычы, Стрэшын, Тураў, Уваравічы, Цеfахоўка), 4 рабочыя пасёлкі (Бальшавік, Беліцк, Касцюкоўка, Сасновы Бор), 3 былыя мястэчкі, 756 пасёлкаў, 1952 вёскі, 14 хутароў, 43 чыгуначныя станцыі, 16 раз'ездаў, 15 пасялковых і 312 сельскіх Саветаў.

Гомельская вобласць мяжуе на поўначы з Магілёўскай, на паўночным захадзе — з Мінскай, на захадзе — з Брэсцкай, на поўдні — з Ровенскай, Жытомірскай, Кіеўскай, на паўднёвым усходзе — з Чарнігаўскай (апошнія чатыры належаць УССР), на ўсходзе — з Бранскай вобласцю РСФСР.

«Слоўнік назваў населеных пунктаў Гомельскай вобласці» па крыніцах, характары адбору матэрыялу, па структуры, тыпах артыкулаў і іх змесце такі самы, як і слоўнікі па Віцебскай (1977), Брэсцкай (1980), Мінскай (1981), Гродзенскай (1982) і Магілёўскай абласцях [18].

Ставячы мэтаю стварыць слоўнік назваў паселішчаў на тэрыторыі

---

[17] Народное хозяйство Белорусской ССР.— Мн., 1985, с. 4.

* Падлікі зроблены паводле даведніка: Белорусская ССР. Административно-территориальное деление.— Мн., 1964; 1968; 1974; 1981.

** На перспектыўнае развіццё, акрамя гарадоў і гарадскіх пасёлкаў, плануецца 496 пасяленняў.

[18] Рапановіч Я. Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Магілёўскай вобласці.— Мн., 1983. Рэцэнзавалі: Драздоўская Т. Імёны родных мясцін.— Ленінскі шлях, 1984, 19 чэрв., с. 4; Сарока У. Слоўнік для нашчадкаў.— Беларусь, 1984, № 10, с. 33.

сучаснай Гомельскай вобласці, аўтар карыстаўся трыма крыніцамі. Першая: запісы на месцы — ад старажылаў вёсак, былых мястэчак, пасёлкаў, хутароў. Другая: перапіска з мясцовымі карэспандэнтамі. Трэцяя: друкаваныя матэрыялы (карты, даведнікі, зборнікі законаў, спісы і інш.). На першым плане, безумоўна, запісы, зробленыя ў 1947—1982 гг. на месцы. Бо сапраўднай афіцыйнай формай айконіма, як і ўсякага іншага тапоніма, неабходна лічыць назву, якой карыстаецца сам народ. Вызначыць такую назву ў значнай ступені дапамагалі пісьмы настаўнікаў, студэнтаў, работнікаў мясцовых партыйных і савецкіх органаў.

«Слоўнік назваў населеных пунктаў Гомельскай вобласці» беларуска-рускі. Складаецца ён з дзвюх частак.

У першай частцы даюцца назвы ўсіх паселішчаў (гарадоў, гарадскіх і рабочых пасёлкаў, пасёлкаў, былых мястэчак, вёсак, хутароў, чыгуначных станцый, раз'ездаў), якія ёсць на сучаснай тэрыторыі вобласці. Сюды ўключаны і назвы населеных пунктаў, пры Савецкай уладзе далучаных да гарадоў і гарадскіх пасёлкаў, сселеных або аб'яднаных з іншымі, а таксама спаленых у Айчынную вайну нямецка-фашысцкімі захопнікамі (пасля вайны не адноўленых).

Кожны айконім пішацца паводле арфаграфічных нормаў, прынятых у сучаснай літаратурнай мове (беларускай і рускай), і мае пазначаны націск — толькі на па-беларуску напісаных назвах і ўтвораных ад іх прыметніках. Пры назве населенага пункта падаецца граматычны род, родны і месны склоны айконімаў. Пры назоўніках жаночага роду, што маюць аднолькавыя канчаткі ў родным і месным склонах, канчатак паказваецца адзін раз; пры назоўніках, якія ўжываюцца толькі ў множным ліку, ёсць памета мнл., што абазначае «множналікавы назоўнік». Калі ў родным склоне множнага ліку назва населенага пункта ўжываецца з нулявым канчаткам і канчаткам -аў, то прыводзяцца абедзве формы: першая — асноўная, другая — магчымая. Прыводзяцца таксама прыметнікі, беларускі і рускі, утвораныя ад айконімаў.

Паказваецца тып населенага пункта; пры гарадах, гарадскіх, рабочых пасёлках даюцца дзень, месяц і год, з якіх гэты населены пункт пры Савецкай уладзе стаў горадам, гарадскім ці рабочым пасёлкам, паказваецца падпарадкаванне (абласное, раённае); адзначаецца, цэнтрам чаго з'яўляецца населены пункт (абласнога, раённага, пасялковага, сельскага Савета), у якім сельсавеце і раёне знаходзіцца, у які калгас ці саўгас (пры негарадах) уваходзіць.

**Аздзе'ліна** н., -на, -не **Азделино.** Аздзе'лінскі Азделинский
в. — ц. Аздзелінскага с/с Гомельскага р-на і к-са імя С. М. Кірава.

**Жло'бін** м., -на, -не **Жлобин.** Жло'бінскі Жлобинский
летапісы называюць у 1492 г., г. абласнога падпарадкавання з

7 сакавіка 1963 г. і чыг. ст., ц. Жлобінскага р-на.
**Но'вая Міха'йлаўка** ж., -вай -кі, -вай -ўцы **Новая Михайловка**. Новаміха'йлаўскі Новомихайловский
п. у Вяліканямкоўскім с/с Веткаўскага р-на, у с-се «Нямкі».

Перайменаваныя населеныя пункты маюць год перайменавання і старую назву. Каб лягчэй было іх знайсці, старыя і новыя назвы звязаны двухбаковымі спасылкамі.

**Аляська'я** ж., -кой **Алеськая**. Аляські' Алеськой
в. да 1919 г. у Роза-Люксембургскім с/с Ельскага р-на. Гл. **Ро'за Лю'ксембург.**
**Ро'за Лю'ксембург** м., Роза Люксембурга, Роза Люксембурзе **Роза Люксембург**. Роза-Лю'ксембургскі Роза-Люксембургский
(да 1919 г. Аляська'я) в. — ц. Роза-Люксембургскага с/с Ельскага р-на і к-са імя XX з'езда КПСС.

У тых выпадках, калі захаваліся дакументы, якія пацвярджаюць перайменаванне, пры перайменаваных населеных пунктах даюцца дзень, месяц і год.

**Бараві'чы** мн., -іч/-чаў, -чах **Боровичи**. Бараві'цкі Боровичский
(да 30 ліпеня 1964 г. Гразлі'ва) в. у Вуглоўскім с/с Нараўлянскага р-на, у с-се «Партызанскі».
**Гразлі'ва** н., -ва, -ве **Грязливо**. Гразлі'ўскі Грязливский
в. да 30 ліпеня 1964 г. у Вуглоўскім с/с Нараўлянскага р-на. Гл. **Бараві'чы.**

Не вызначаецца граматычны род айконімаў і не паказваюцца іх формы ў родным і месным склонах, калі населеныя пункты называюцца (ці называліся) паводле вытворчай прыкметы ці роду заняткаў людзей. Пры такіх назвах няма таксама і прыметнікаў.

**Пасёлак Васіле'віцкага пеньказаво'да Посёлок Василевичского пенькозавода**
п. да 1968 г. у Зеляноцкім с/с Калінкавіцкага р-на.
**Пасёлак Дру'цкага лясні'цтва Посёлок Друтского лесничества**
п. у Старасельскім с/с Рагачоўскага р-на, Друцкае л-ва.

Па-руску беларускія айконімы перадаюцца зыходзячы з традыцыі, заснаванай на блізкай роднасці беларускай і рускай моў, і ў адпаведнасці з асноўнымі нормамі, якіх патрабуе «Инструкция по русской передаче географических названий Белорусской ССР» (М., 1971). Акрамя таго, улічаны агульны накірунак указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета

БССР ад 5 сакавіка 1981 г. «Аб удакладненні напісання некаторых сельсаветаў Беларускай ССР і іх цэнтраў»[19]. Згодна з указам, пры перадачы тапонімаў Беларусі на рускай мове ім вяртаюцца нацыянальныя асаблівасці: адмаўленне ад перакладу, падваення зычных, змякчэння цвёрдага [р] і іншых зычных, перадача спалучэння *ио* літарай *ё*, вяртанне спрадвечнага граматычнага роду, напісанне суфіксальнага *о* пасля шыпячых пад націскам і г. д.

Як і іншыя геаграфічныя назвы, айконімы ўзнікаюць і скарыстоўваюцца для таго, каб назваць канкрэтны аб'ект, вылучыць яго сярод падобных, надаць адзіны «адрас», таму яны, як правіла, інтэрнацыянальныя і не перакладаюцца з мовы на мову. Гэта істотнае палажэнне, прынятае ў сучаснай навуцы, улічана ў слоўніку.

Барба′ ж., -бы, -бе **Борьба.** Барбя′нскі Борбянский
(да 1928 г. Рама′нава) в. у Сівенскім с/с Веткаўскага р-на, у к-се «Пераможац».
Кра′сны **Акця′бр** м., -нага -ра, -ным -ры **Красный Октябрь.** Краснаакця′брскі Краснооктябрьский
(да 1924 г. Чэ′рапаўка II) п. у Акцябрскім с/с Буда-Кашалёўскага р-на, у с-се «Краснаакцябрскі».
**Труд** м., -да, Трудзе **Труд.** Тру′дскі Трудский
(да 1963 г. Асе′цкая) в. у Струменскім с/с Кармянскага р-на, у к-се «Радзіма».

Калі мясцовыя людзі ў састаўных назвах вымаўляюць па-беларуску словы «вялікая», «вялікае», «вялікі», «вялікія» (пасёлак Вялікі Лес у Дзям'янкаўскім сельсавеце Добрушскага раёна, вёскі Вялікі Бокаў у Каменскім сельсавеце Мазырскага раёна, Вялікія Рагі ў Салонскім сельсавеце Жлобінскага раёна, Вялікія Сціблевічы ў Ленінскім сельсавеце Жыткавіцкага раёна), а пры напісанні назваў па-руску гэтыя прыметнікі перакладаюць (Большой Лес, Большой Боков, Большие Роги, Большие Стеблевичи), то перавага аддаецца беларускай назве і ў кнізе астаюцца Великий Лес, Великий Боков, Великие Роги, Великие Стеблевичи.

Выключэнне складае слова «першы»: ці яно з'яўляецца часткаю састаўной назвы, ці ўваходзіць як элемент у складаны айконім — заўсёды паводле традыцыі, замацаванай штодзённай практыкай, перакладаецца.

**Пе′ршае Ма′я** н., -шага Мая, -шым Маі **Первое Мая.** Перша′майскі Первомайский

[19] ЗЗ БССР.— Мн., 1981, № 8, с. 124—128.

(да 1938 г. Пагуля'нка) в. у Глыбаўскім с/с Рэчыцкага р-на, у эксперымент. базе «Падалессе».

**Першама'й** м., -ая, -аі **Первомай.** Першама'йскі Первомайский
(да 30 ліпеня 1964 г. Гарава'ха) в. у Петрыкоўскім с/с Петрыкоўскага р-на, у с-се «Петрыкоўскі».

**Першама'йскі** м., -кага, -кім **Первомайский.** Першама'йскі Первомайский
п. у Крыўскім с/с Буда-Кашалёўскага р-на, у к-се «Чырвоны шлях»;
п. у Ліпініцкім с/с Буда-Кашалёўскага р-на, у к-се «Зара».

Назіраюцца выпадкі, калі мясцовая народная назва не супадае з пісьмовай афіцыйнай, якая ўжо так трывала замацавалася ў розных друкаваных крыніцах, што нават паступова пачала выцясняць мясцовую. У такім разе даюцца абедзве назвы — спачатку пісьмовая, афіцыйная, а потым (у дужках) мясцовая, народная.

**Ля'скавічы** мн., -іч/-чаў, -чах **Лясковичи.** Ля'скавіцкі Лясковичский
(Лескаві'чы) в.—ц. Ляскавіцкага с/с Акцябрскага р-на і с-са «Арэса».

**Ратмі'равічы** мн., -іч/-чаў, -чах **Ратмировичи.** Ратмі'равіцкі Ратмировичский
(Ра'цьмеравічы) в. і чыг. ст. у Акцябрскім с/с Акцябрскага р-на, у с-се «Праўда».

Аднолькавыя назвы змешчаны ў адным артыкуле. Прычым самі назвы не паўтараюцца. Звесткі пра кожны населены пункт, незалежна ад яго тыпу, падаюцца зыходзячы з алфавітнага парадку раёнаў, а для паселішчаў у адным і тым жа раёне — зыходзячы з алфавітнага парадку сельсаветаў.

**Абра'маўка** ж., -кі, -ўцы **Абрамовка.** Абра'маўскі Абрамовский
в. у Ручаёўскім с/с Лоеўскага р-на, у с-се «Зара»;
в. у Баршчоўскім с/с Рэчыцкага р-на, у с-се «Баршчоўка».

**Грамы'кі** мн., -ык/-каў, -ках **Громыки.** Грамы'цкі Громыкский
в. у Перадзельскім с/с Лоеўскага р-на, у с-се «Дняпроўскі»;
в. ва Уборацкім с/с Лоеўскага р-на, у с-се імя У. І. Леніна.

Бывае, што ў адным і тым жа сельсавеце ёсць аднолькавыя назвы, якія маюць адрознівальныя паказальнікі I, II і г. д. Тады спачатку даецца назва без паказальніка, а затым — з чарговымі нумарамі.

**Сто'ўпня** ж., -ні **Столпня.** Стаўпня'нскі Столпнянский
в.—ц. Стаўпнянскага с/с Рагачоўскага р-на і к-са «Светлы шлях».

**Сто′ўпня I** ж., -ні **Столпня I.** Стаўпня′нскі I Столпнянский I в. у Белабалоцкім с/с Рэчыцкага р-на, у с-се «Рэчыца».
**Сто′ўпня II** ж., -ні **Столпня II.** Стаўпня′нскі II Столпнянский II в. у Белабалоцкім с/с Рэчыцкага р-на, у с-се «Рэчыца».

Назвы населеных пунктаў, сселеных ці аб'яднаных з іншымі, стаяць у агульным алфавітным парадку. Пры іх паказваецца год, да якога было паселішча. У тых выпадках, калі захаваліся дакументы, што пацвярджаюць зняццё з уліку, пры зніклых населеных пунктах даюцца дзень, месяц і год, указваецца, чаму паселішча не стала.

**А′нзельмаўка** ж., -кі, -ўцы **Анзельмовка.** А′нзельмаўскі Анзельмовский в. да 1919 г. у Роза-Люксембургскім с/с Ельскага р-на.
**Грэ′бенеў** м., -ева, -еве **Гребенев.** Грэ′бенеўскі Гребеневский в. да 20 жніўня 1976 г. у Маладушскім с/с Рэчыцкага р-на.
**Імаго′рск** м., -ка, -ку **Имагорск.** Імаго′рскі Имагорский п. да 11 чэрвеня 1964 г. у Івакаўскім с/с Добрушскага р-на, зліўся з в. Іва′кі.
**Карчава′ха** ж., -хі, -асе **Корчеваха.** Карчава′хскі Корчевахский п. да 7 чэрвеня 1979 г. у Балатнянскім с/с Рагачоўскага р-на, жыхары пераехалі ў в. Старасе′лле.
**Ку′стаўніца** ж., -цы **Кустовница.** Ку′стаўніцкі Кустовницкий в. да 24 мая 1978 г. у Міхалкаўскім с/с Мазырскага р-на, жыхары пераехалі ў п. Крыні′чны Крынічанскага с/с.
**Чарапа′нскі** м., -кага, -кім **Черепанский.** Чарапа′нскі Черепанский х. да 1938 г. у Вуглоўскім с/с Нараўлянскага р-на, сселены ў в. Ако′пы.
**Яку′баўка** ж., -кі, -ўцы **Якубовка.** Яку′баўскі Якубовский в. у Пакалюбіцкім с/с Гомельскага р-на, з 7 кастрычніка 1957 г. у мяжы г. Го′мель.

У састаўных назвах словы стаяць у звычайным, а не інверсійным парадку: Казіміраўская Буда (Слабодскі сельсавет Мазырскага раёна), Бурыцкая Рудня (Малінаўскі сельсавет Лоеўскага раёна), хоць бытуе і Буда Казіміраўская, Рудня Бурыцкая. Каб лягчэй было адшукаць патрэбную назву, у такіх выпадках даецца спасылка.

**Бу′да Казімі′раўская** гл. **Казімі′раўская Бу′да.**
**Ру′дня Бу′рыцкая** гл. **Бу′рыцкая Ру′дня.**

Пільнае вока чытача заўважыць, што ў слоўніку даюцца не ўсе назвы паселішчаў, якія ў свой час па нейкіх прычынах зніклі: сселеных, спаленых, далучаных да суседніх і г. д. Ёсць, напрыклад, пасёлак Чэ-

рапаўка II (Акцябрскі сельсавет Буда-Кашалёўскага раёна) і няма назвы Чэрапаўка I. Калі ў 1924 г. пасёлак Чэрапаўка II перайменавалі, то адпала патрэба ў адрознівальным паказальніку і былую вёску Чэрапаўка I сталі называць проста Чэрапаўка. Асобныя назвы зніклых паселішчаў не ўдалося адшукаць.

Назвы калгасаў і саўгасаў падаюцца ў поўнай адпаведнасці з тымі пісьмовымі афіцыйнымі назвамі, што прыняты на месцах. Праўда, замест ускладненых назваў тыпу ордэна Леніна калгас імя Э. Тэльмана (Брагінскі раён), ордэна Леніна калгас «Світанне» (Жлобінскі раён), ордэна Кастрычніцкай Рэвалюцыі саўгас «Ведрыч» (Рэчыцкі раён), ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга калгас імя XXII з'езда КПСС, ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга калгас імя У. І. Леніна, ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга калгас імя М. С. Урыцкага (усе тры Гомельскага раёна), калгас «Абарона» імя 50-годдзя СССР (Добрушскі раён) пакідаюцца кароткія: калгас імя Э. Тэльмана, калгас «Світанне», саўгас «Ведрыч», калгас імя XXII з'езда КПСС, калгас імя У. І. Леніна, калгас імя М. С. Урыцкага, калгас «Абарона» і замест напісанняў «1 Мая», «1-е Мая», «1-ае Мая», «Першае мая», «Паршага мая», «Першага Мая», якія можна знайсці на штампах, пячатках і ў раённых газетах, узята адна форма — «1 Мая». Прынята таксама пад увагу рэкамендацыя Тэрміналагічнай камісіі Беларускай Савецкай Энцыклапедыі пісаць: калгас (саўгас) «Світанне», а не калгас (саўгас) «Рассвет». Пры ўсіх назвах мемарыяльнага паходжання, утвораных паводле мадэлі «імя+прозвішча чалавека, чыя памяць ушаноўваецца», перад прозвішчам пастаўлены ініцыялы. Гэта поўнасцю адпавядае аналагічным назвам фабрык, заводаў, навучальных і навуковых устаноў і інш.

У другой частцы змешчаны (таксама ў алфавітным парадку) назвы раёнаў, пасялковых і сельскіх Саветаў, калгасаў і саўгасаў. Пры раёнах паказаны: дата ўтварэння; плошча, цэнтр; адлегласць ад цэнтра да найбліжэйшай чыгуначнай станцыі ці раз'езда, да Гомеля і Мінска; колькасць пасялковых і сельскіх Саветаў; агульная колькасць паселішчаў, сярод іх — колькасць гарадоў, гарадскіх пасёлкаў, былых мястэчак, пасёлкаў, вёсак, хутароў, чыгуначных станцый, раз'ездаў, а таксама колькасць калгасаў і саўгасаў, паселішчаў, запланаваных на перспектыўнае развіццё. Пры пасялковых і сельскіх Саветах — цэнтр; раён, адлегласць ад цэнтра да найбліжэйшай чыгуначнай станцыі ці раз'езда і да раённага цэнтра; колькасць паселішчаў, калгасаў і саўгасаў.

Усяго (з улікам фанетычных і лексічных варыянтаў) у слоўніку 2885 назваў, якія прыпадаюць на 3720 населеных пунктаў. Сярод іх паселішчы (1042), спаленыя нямецкімі фашыстамі ў Айчынную вайну

і неаднолены, далучаныя да гарадоў або гарадскіх пасёлкаў, сселеныя ці аб'яднаныя ў большыя.

Аўтар выказвае шчырую падзяку доктару філалагічных навук П. П. Шубе, кандыдату філалагічных навук С. М. Грабчыкаву, кандыдату гістарычных навук Г. А. Каханоўскаму за каштоўныя парады, Навуковаму савету пры аддзяленні грамадскіх навук АН БССР па праблеме «Беларускае і рускае мовазнаўства», які рэкамендаваў слоўнік да друку, работнікам мясцовых партыйных і савецкіх органаў, настаўнікам, студэнтам за іх звесткі, скарыстаныя пры ўкладанні даведніка.

## СКАРАЧЭННІ

Айч. — Айчынны
Акц. — Акцябрскі раён
Браг. — Брагінскі раён
Б.-Каш. — Буда-Кашалёўскі раён
в. — вёска
Ветк. — Веткаўскі раён
г. — горад
гл. — глядзі
г. п. — гарадскі пасёлак
Гом. — Гомельскі раён
г/с — гарадскі Савет
д/а — дом адпачынку
Добр. — Добрушскі раён
Ел. — Ельскі раён
ж. — жаночы род
Жлоб. — Жлобінскі раён
Жытк. — Жыткавіцкі раён
з-д — завод
Калінк. — Калінкавіцкі раён
Карм. — Кармянскі раён
к-с — калгас
л. — леснічоўка
л-ва — лясніцтва
Лельч. — Лельчыцкі раён
Лоеў. — Лоеўскі раён
м. — мужчынскі род
Маз. — Мазырскі раён
мнл.— множналікавы назоўнік
мяст. — мястэчка
н. — ніякі род
Нар. — Нараўлянскі раён
ням. — нямецкі
п. — пасёлак
Петр. — Петрыкоўскі раён
п/с — пасялковы Савет
Раг. — Рагачоўскі раён
р-д — раз'езд
р-н — раён
р. п. — рабочы пасёлак
р/ц — раённы цэнтр
Рэч. — Рэчыцкі раён
Светлаг. — Светлагорскі раён
с/с — сельскі Савет
с-с — саўгас
х. — хутар
Хвойн. — Хвойніцкі раён
ц. — цэнтр
Чач. — Чачэрскі раён
чыг. пст. — чыгуначны паўстанак
чыг. ст. — чыгуначная станцыя
эксперымент. — эксперыментальны

2. Зак. 1880

# А

**Абаку'мы** мнл., -ум/-маў, -мах **Абакумы**. Абаку'мскі Абакумский
в. у Карпаўскім с/с Лоеўскага р-на, у с-се «Карпаўка».
**Або'льцы** мнл., -лец/-цаў, -цах **Обольцы**. Або'лецкі Оболецкий
в. у Дабрагашчанскім с/с Жлобінскага р-на, у с-се «Уперад».
**Абра'маўка** ж., -кі, -ўцы **Абрамовка**. Абра'маўскі Абрамовский
в. у Ручаёўскім с/с Лоеўскага р-на, у с-се «Зара»;
в. у Баршчоўскім с/с Рэчыцкага р-на, у с-се «Баршчоўка».
**Абу'хаўшчына** ж., -ны, -не **Обуховщина**. Абу'хаўшчынскі Обуховщинский
в. у Бярозаўскім с/с Калінкавіцкага р-на, у к-се «50 гадоў БССР».
**Аванга'рд** м., -да, -рдзе **Авангард**. Аванга'рдскі Авангардский
(да 1937 г. Каму'на) в. у Даманавіцкім с/с Калінкавіцкага р-на, у к-се імя І. У. Мічурына.
**Агаро'днікі** мнл., -каў, -ках **Огородники**. Агаро'дніцкі Огородникский
в. у Бярозаўскім с/с Калінкавіцкага р-на, ц. к-са імя В. І. Чапаева.
**Агародня-Го'мельская** ж., Агародня-Гомельскай **Огородня-Гомельская**. Агародня-Го'мельскі Огородня-Гомельский
в.—ц. Агародня-Гомельскага с/с Добрушскага р-на, у к-се «Абарона».
**Агародня-Кузьмі'ніцкая** ж., Агародня-Кузьмініцкай **Огородня-Кузьминичская**. Агародня-Кузьмі'ніцкі Огородня-Кузьминичский
в. у Агародня-Гомельскім с/с Добрушскага р-на, у к-се «Абарона».
**Аго'ліцкая Ру'дня** ж., -кай -ні **Оголичская Рудня**. Аголіцкарудня'нскі Оголичскоруднянский
в. у Капцэвіцкім с/с Петрыкоўскага р-на, у с-се «Петрыкоўскі».
**Аго'лічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Оголичи**. Аго'ліцкі Оголичский
в. у Капцэвіцкім с/с Петрыкоўскага р-на, у с-се «Петрыкоўскі».
**Ада'маўка** ж., -кі, -ўцы **Адамовка**. Ада'маўскі Адамовский
в. у Заспенскім с/с Рэчыцкага р-на, у к-се «Савецкая Беларусь».
**Адасі'** мнл., -сёў, -сях **Адаси**. Адасёўскі Адасёвский
в. у Конкавіцкім с/с Петрыкоўскага р-на, у к-се імя У. І. Леніна.
**Адве'рніца** ж., -цы **Адверница**. Адве'рніцкі Адверницкий
п. да 1925 г. у Баршчоўскім с/с Рэчыцкага р-на. Гл. **Чырво'ная Слабо'дка**.
**Адзі'нства** н., -ва, -ве **Единство**. Адзі'нственскі Единственский
п. у Чачэрскім с/с Чачэрскага р-на, у к-се «Сцяг камунізму».
**Аднапо'лле** н., -лля, -ллі **Однополье**. Аднапо'льскі Однопольский
(Аднапо'ле) п. у Прысвянскім с/с Веткаўскага р-на, у к-се «Іскра».
**Адраджэ'нне** н., -ння, -нні **Адрадженье**. Адраджэ'нскі Адрадженский
(да 5 жніўня 1968 г. Эрштэрма'й) в. у Папаратненскім с/с Жлобінскага р-на, у к-се «Іскра»;
п. да 29 лістапада 1962 г. у Папаратненскім с/с Жлобінскага р-на, зліўся з в. Эрштэрма'й;
в. у Збароўскім с/с Рагачоўскага р-на, спаленая ням. фашыстамі у Айч. вайну, не адноўленая.

**Адру'бы** мнл., -баў, -бах **Отрубы.** Адру'бскі Отрубский
в. у Кабанаўскім с/с Жлобінскага р-на, у к-се «Камуніст».

**Адча'нны** м., -ннага, -нным **Отчаянный.** Адча'янскі Отчаянский
п. у Марозавіцкім с/с Буда-Кашалёўскага р-на, у с-се «Марозавічы».

**Аза'рычы** мнл., -ыч/-чаў, -чах **Азаричи.** Аза'рыцкі Азарический
г. п. з 17 лістапада 1959 г. — ц. Азарыцкага п/с Калінкавіцкага р-на і с-са «Азарычы».

**Аздзе'ліна** н., -на, -не **Азделино.** Аздзе'лінскі Азделинский
в. — ц. Аздзелінскага с/с Гомельскага р-на і к-са імя С. М. Кірава.

**Азе'ршчына** ж., -ны, -не **Озерщина.** Азе'ршчынскі Озерщинский
п. да 1939 г. у Маланямкоўскім с/с Веткаўскага р-на, жыхары пераехалі ў в. Пералёўка;
в. — ц. Азершчынскага с/с Рэчыцкага р-на і вучгаса Рэчыцкага зоаветтэхнікума.

**Азёрны** м., -нага, -ным **Озёрный.** Азёрненскі Озёрненский
п. з 21 студзеня 1969 г. у Юркевіцкім с/с Жыткавіцкага р-на, ц. рыбгаса «Белае».

**Азэ'таўка** ж., -кі, -ўцы **Озетовка.** Азэ'таўскі Озетовский
п. да 1928 г. у Мікалаеўскім с/с Буда-Кашалёўскага р-на, зліўся з в. Фудамі'нка.

**Азяра'ны** мнл., -ан/-наў, -нах **Озераны.** Азяра'нскі Озеранский
в. — ц. Азяранскага с/с Жыткавіцкага р-на, у к-се «Савецкая Беларусь»;
в. — ц. Азяранскага с/с Рагачоўскага р-на і к-са імя Н. К. Крупскай.

**Азяры'шча** н., -ча, -чы **Озерище.** Азяры'шчанскі Озерищенский
п. у Ленінскім с/с Чачэрскага р-на, у к-се імя У. І. Леніна.

**Азяры'шчы** мнл., -чаў, -чах **Озерищи.** Азяры'шчанскі Озерищенский
в. у Кісцянёўскім с/с Рагачоўскага р-на, у с-се «Кісцяні».

**Ако'ліца** ж., -цы **Околица.** Ако'ліцкі Околицкий
п. у Камсамольскім с/с Рэчыцкага р-на, у с-се «Камсамольскі».

**Ако'пы** мнл., -оп/-паў, -пах **Окопы.** Ако'пскі Окопский
в. у Вуглоўскім с/с Нараўлянскага р-на, у с-се «Партызанскі».

**Акрыёны** мнл., -ён/-наў, -нах **Акрыёны.** Акрыёнскі Акрыёнский
в. у Конкавіцкім с/с Петрыкоўскага р-на, у к-се імя У. І. Леніна.

**Акулі'нка** ж., -кі, -нцы **Акулинка.** Акулі'нскі Акулинский
в. у Крынічанскім с/с Мазырскага р-на, у эксперымент. базе «Крынічная».

**Акця'бр** м., -ра, -ры **Октябрь.** Акця'брскі Октябрьский
(да 30 снежня 1961 г. Ста'ліна) в. —ц. Акцябрскага с/с Буда-Кашалёўскага р-на і с-са «Краснаакцябрскі»;
(да 1936 г. Папкі') в.—ц. Акцябрскага с/с Жлобінскага р-на і к-са імя А. А. Жданава;
(да 7 жніўня 1962 г. Бязбо'жнік) п. да 1 снежня 1966 г. у Пірэвіцкім с/с Жлобінскага р-на, зліўся з в. Салта'наўка;
(да 29 лістапада 1962 г. Задзярэ'еўка) п. у Камсамольскім с/с Рэчыцкага р-на, у с-се «Камсамольскі»;
п. у Чачэрскім с/с Чачэрскага р-на, у к-се «50 гадоў БССР».

**Акцябро'ва** н., -ва, -ве **Октябрёво.** Акцябро'ўскі Октябрёвский
(да 30 ліпеня 1964 г. Но'вая Быч і Стара'я Быч) в.—ц. Акцяброўскага с/с Карманскага р-на і с-са «Зара камунізму».

**Акця'брская** ж., -кай **Октябрьская**. Акця'брскі Октябрьский (да 30 ліпеня 1964 г. Тапі'ла) в. да 1 снежня 1966 г. у Луцкім с/с Жлобінскага р-на, зліласся з в. Но'выя Лу'кі.
**Акця'брскі** м., -кага, -кім **Октябрьский**. Акця'брскі Октябрьский (да 31 жніўня 1954 г. Карпі'лаўка) г. п. з 31 жніўня 1954 г. — ц. Акцябрскага п/с, Акцябрскага с/с, Акцябрскага р-на і с-са «Акцябрскі».
**Акшы'нка** ж., -кі, -нцы **Акшинка.** Акшы'нскі Акшинский в.—ц. Акшынскага с/с Веткаўскага р-на і с-са «Усходні».
**Ала'** ж., Алы, Але **Ола**. Ала'нскі Оланский
в. у Чыркавіцкім с/с Светлагорскага р-на, у к-се імя М. І. Калініна;
в. у Чыркавіцкім с/с Светлагорскага р-на, спаленая ням. фашыстамі ў Айч. вайну, не адноўленая.
**Але'йнікаў** м., -ава, -аве **Олейников**. Але'йнікаўскі Олейниковский
п. у Гарадзілавіцкім с/с Рагачоўскага р-на, у к-се «Савецкая Беларусь».
**Александро'ў** м., -ова, -ове **Александров.** Александро'ўскі Александровкий
в. у Салонскім с/с Жлобінскага р-на, у с-се «Нівы».
**Але'ксічы** мн., -іч/-чаў, -чах **Алексичи.** Але'ксіцкі Алексичский
в. у Алексіцкім с/с Хвойніцкага р-на, у к-се «Ленінскі шлях».
**Алёс** м., -са, -се **Алёс.** Алёскі Алёсский
п. да 30 ліпеня 1964 г. у Васільеўскім с/с Добрушскага р-на. Гл. **Чырво'ны Алёс;**
п. у Меркулавіцкім с/с Чачэрскага р-на, у с-се «Бацвінава».
**А'льбінск** м., -ка, -ку **Альбинск.** А'льбінскі Альбинский
в. у Ляскавіцкім с/с Акцябрскага р-на, у с-се «Арэса».
**Альсаго'рка** ж., -кі, -рцы **Альсагорка.** Альсаго'рацкі Альсагорецкий
п. у Лучынскім с/с Рагачоўскага р-на, у к-се «Запаветы Ільіча».
**Альхо'вае** н., -вага, -вым **Ольховое.** Альхо'ўскі Ольховский
п. ва Усахскабудскім с/с Добрушскага р-на, у к-се імя А. В. Суворава.
**Альхо'вая** ж., -вай **Ольховая.** Альхо'ўскі Ольховский
в. у Грабянёўскім с/с Лельчыцкага р-на, у с-се імя І. У. Мічурына.
**Альхо'ўка** ж., -кі, -ўцы **Ольховка.** Альхо'ўскі Ольховский
в. у Цяпэшкавіцкім с/с Гомельскага р-на, у с-се «Навабеліцкі».
**Алякса'ндраўка** ж., -кі, -ўцы **Александровка.** Алякса'ндраўскі Александровский
в. у Новаялчанскім с/с Брагінскага р-на, у с-се «Краснае»;
п. у Гусявіцкім с/с Буда-Кашалёўскага р-на, у к-се імя У. І. Леніна;
в. у Мікалаеўскім с/с Буда-Кашалёўскага р-на, у с-се «Чачора»;
п. у Шырокаўскім с/с Буда-Кашалёўскага р-на, у с-се «Камінтэрн»;
п. да 1947 г. у Новаграмыцкім с/с Веткаўскага р-на, зліўся з в. Пацёсы;
п. у Старабеліцкім с/с Гомельскага р-на, у к-се імя М. С. Урыцкага;
в. у Рамязоўскім с/с Ельскага р-на, у к-се «Партызан»;
п. у Майскім с/с Жлобінскага р-на, у к-се «Ленінец»;

в. у Шчадрынскім с/с Жлобінскага р-на, у к-се імя К. Я. Варашылава;
в. у Малааўцюкоўскім с/с Калінкавіцкага р-на, ц. с-са «Галявічы»;
в. у Кіраўскім с/с Нараўлянскага р-на, у с-се «Кіраўскі»;
в. у Старасельскім с/с Рагачоўскага р-на, у с-се «Прагрэс»;
в. у Баршчоўскім с/с Рэчыцкага р-на, у с-се «Баршчоўка»;
в. у Баравікоўскім с/с Светлагорскага р-на, у с-се «Баравікі»;
п. да 1939 г. у Чыркавіцкім с/с Светлагорскага р-на.

**Аляксе′еўка** ж., -кі, -ўцы **Алексеевка**. Аляксе′еўскі Алексеевский
п. у Старабеліцкім с/с Гомельскага р-на, у к-се імя М. С. Урыцкага;
в. у Крутоўскім с/с Чачэрскага р-на, у к-се імя С. М. Кірава.

**Аляська′я** ж., -кой **Алеская**. Аляські′ Алеськой
в. да 1919 г. у Роза-Люксембургскім с/с Ельскага р-на. Гл. **Ро′за Лю′ксембург.**

**Аме′лькаўшчына** ж., -ны, -не **Амельковщина.** Аме′лькаўшчынскі Амельковщинский
в.—ц. Амелькаўшчынскага с/с Хвойніцкага р-на і к-са «Шлях Леніна»;
п. да 11 студзеня 1968 г. у Амелькаўшчынскім с/с Хвойніцкага р-на, зліўся з в. Аме′лькаўшчына.

**Аме′рыка** ж., -кі, -ыцы **Америка**. Амерыка′нскі Американский
(Амэ′рыка) в. да 30 ліпеня 1964 г. у Стараруднянскім с/с Жлобінскага р-на. Гл. **Саве′цкая.**

**Амялля′наў Ху′тар** м., -навага -ра, -навым -ры **Амельянов Хутор.** Амяллянавахут′тарскі Амельяновохуторский
х. да 1939 г. у Мікалаеўскім с/с Светлагорскага р-на.

**Амяльна′я** ж., -ной **Омельная**. Амяльня′нскі Омельнянский
в. у Побалаўскім с/с Рагачоўскага р-на, у к-се «Чырвоная Армія».

**Амяльно′е** н., -нога, -ным **Омельное.** Амяльня′нскі Омельнянский
п. у Старазакружскім с/с Веткаўскага р-на, у к-се «40 гадоў Кастрычніка».

**Анаста′сеўка** ж., -кі, -ўцы **Анастасевка.** Анаста′сеўскі Анастасевский
в. у Мікалаеўскім с/с Буда-Кашалёўскага р-на, у с-се «Чачора».

**Андрыя′наўскі** м., -кага, -кім **Андрияновский**. Андрыя′наўскі Андрияновский
п. у Бальшавіцкім п/с Гомельскага р-на, у торфапрадпрыемстве «Бальшавік».

**Андрэ′еў Лут** м., -евага -та, -евым Луце **Андреев Лут.** Андрэевалу′цкі Андреееволутский
х. да 1939 г. у Мікалаеўскім с/с Светлагорскага р-на.

**Андрэ′еўка** ж., -кі, -ўцы **Андреевка.** Андрэ′еўскі Андреевский
в. у Парэцкім с/с Акцябрскага р-на, у міжгаспадарчым аб′яднанні «Бунёў»;
в. у Шырокаўскім с/с Буда-Кашалёўскага р-на, у с-се «Камінтэрн»;
п. ва Усахскабудскім с/с Добрушскага р-на, у к-се імя А. В. Суворава;
в. у Ровенскаслабодскім с/с Рэчыцкага р-на, у к-се імя Ф. Э. Дзяржынскага.

**А′нзельмава** н., -ва, -ве **Анзельмово.** А′нзельмаўскі Анзельмовский
в. да 1920 г. у Багуціцкім с/с Ельскага р-на. Гл. **Каму′на.**

**А'нзельмаўка** ж., -кі, -ўцы **Анзельмовка**. А'нзельмаўскі Анзельмовский
в. да 1919 г. у Роза-Люксембургскім с/с Ельскага р-на.
**Ані'савічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Анисовичи**. Ані'савіцкі Анисовичский
в. да 1 снежня 1966 г. у Даманавіцкім с/с Калінкавіцкага р-на, злілася з в. Дама'навічы.
**А'ннаўка** ж., -кі, -ўцы **Анновка**. А'ннаўскі Анновский
в. у Дварэцкім с/с Рагачоўскага р-на, у к-се «Ленінскае жыццё».
**Ано'савічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Аносовичи**. Ано'савіцкі Аносовичский
в. у Навасёлкаўскім с/с Петрыкоўскага р-на, у с-се «Навасёлкі».
**Анто'наў** м., -ава, -аве **Антонов**. Анто'наўскі Антоновский
(да 25 чэрвеня **1938 г. Сы'рнік**) п. у Вуцкім с/с Добрушскага р-на, у к-се «Шлях да камунізму»;
в. у Галоўчыцкім с/с Нараўлянскага р-на, у к-се імя М. В. Фрунзе.
**Анто'наўка** ж., -кі, -ўцы **Антоновка**. Анто'наўскі Антоновский
в. у Рагінскім с/с Буда-Кашалёўскага р-на, у с-се «Дзербічы»;
в. у Вялікаяямкоўскім с/с Веткаўскага р-на, у с-се «Нямкі»;
в. у Насовіцкім с/с Добрушскага р-на, у с-се «Насовічы»;
в. у Кароткавіцкім с/с Жлобінскага р-на, у к-се «Радзіма»;
в. у Майскім с/с Жлобінскага р-на, ц. к-са «Ленінец»;
в. у Гарбавіцкім с/с Калінкавіцкага р-на, у к-се «Шлях Леніна»;
в. у Каменскім с/с Мазырскага р-на, у с-се «Каменка»;
в. у Дзёрнавіцкім с/с Нараўлянскага р-на, у с-се «Дзёрнавічы».
**Анто'наўская Ру'дня** ж., -кай -ні **Антоновская Рудня**. Антонаўскаруд-ня'нскі Антоновскорудиянский
в. у Гарбавіцкім с/с Калінкавіцкага р-на, у к-се «Шлях Леніна».
**Анто'нцава** н., -ва, -ве **Антонцево**. Анто'нцаўскі Антонцевский
п. да 1932 г. у Марозавіцкім с/с Буда-Кашалёўскага р-на. Гл. **Ка-валёва**.
**Анто'паль** м., -ля, -лі **Антополь**. Анто'пальскі Антопольский
п. у Дземяхоўскім с/с Рэчыцкага р-на, у с-се «Дземяхі».
**Антушы'** мнл., -шоў, -шах **Антуши**. Антушо'ўскі Антушовский
в. у Побалаўскім с/с Рагачоўскага р-на, у с-се «Побалава».
**Апало'наўка** ж., -кі, -ўцы **Аполоновка**. Апало'наўскі Аполоновский
п. у Грабаўскім с/с Гомельскага р-на, у с-се «Зара».
**Апана'саўка** ж., -кі, -ўцы **Апанасовка**. Апана'саўскі Апанасовский
п. у Аздзелінскім с/с Гомельскага р-на, у к-се імя С. М. Кірава.
**Араві'чы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Оревичи**. Араві'цкі Оревичский
в.—ц. Аравіцкага с/с Хвойніцкага р-на і с-са «Аравічы».
**Арле'нск** м., -ка, -ку **Арленск**. Арле'нскі Арленский
п. у Цярэшкавіцкім с/с Гомельскага р-на, у с-се «Навабеліцкі».
**Аро'л** м., Арла, Арле **Орёл**. Арло'ўскі Орловский
п. да 1961 г. у Акцябрскім с/с Буда-Кашалёўскага р-на;
п. да 1939 г. у Пакалюбіцкім с/с Гомельскага р-на, зліўся з п. Ма-сці'шча;
п. у Васільеўскім с/с Добрушскага р-на, у к-се імя Ю. А. Гага-рына;
п. у Карпаўскім с/с Лоеўскага р-на, у с-се «Карпаўка»;
п. у Свірыдавіцкім с/с Рэчыцкага р-на, у к-се імя С. М. Кірава.
**Артукі'** мнл., -коў, -ках **Артуки**. Артуко'ўскі Артуковский
в.—ц. Артукоўскага с/с Рэчыцкага р-на і к-са «Чырвоны сцяг».
**Арэ'хаўка** ж., -кі, -ўцы **Ореховка**. Арэ'хаўскі Ореховский
п. да 29 жніўня 1974 г. у Сівенскім с/с Веткаўскага р-на;

